# КРЫВІНКА

КРАСАВІК
№6 (250)
2020 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## НЕ ХАПАЕ СРОДКАЎ АБАРОНЫ

**У Бешанковіцкай раённай бальніцы на 10-га красавіка 2020 года па-ранейшаму востра не хапала сродкаў індывідуальнай абароны для медыкаў. І хаця за тыдзень да гэтага бальніца штосьці і атрымала, па выказваннях многіх медыкаў гэта ўсё — кропля ў моры.**

Востра не хапае аднаразовых касцюмаў. Яны патрэбныя для кожнага наведвання хворых, якія ляжаць у рэанімацыі. Бо пасля кожнага наведвання тых хворых, кожнай праведзенай там працэдуры аднаразовы касцюм трэба ВЫКІДВАЦЬ. А інакш ад інфекцыі не ўсцеражэшся.

А інфекцыйнае аддзяленне сцірае гэтыя аднаразовыя касцюмы!!! Іх пакуль што ратуюць некалькі старых шматразовых касцюмаў.

Па інфармацыі маіх сяброў, якія працуюць у бальніцы, на 12 чалавек інфекцыйнага аддзялення у наяўнасці ёсць толькі тры (!!!) рэспіратары. Работнікі інфекцыйнага аддзялення шыюць сабе самі ватна-марлевыя павязкі.

Нядаўна бешанковіцкая бальніца набралася мужнасці і абвясціла, што ёй патрэбныя грошы для набыцця трох ўвільгатняльнікаў кіслароду для лячэння пацыентаў з дыхальнай недастатковасцю ў памеры 960 рублёў.

І дапамога прыйшла адтуль, адкуль яе аніяк не чакалі. Грошы ў поўным памеры паступілі са Злучаных Штатаў Амерыкі ад грамадзяніна, які нарадзіўся ў Бешанковічах і які зараз стала жыве ў ЗША.

Чаму ж кіраўніцтва раёна і Бешанковіцкай ЦРБ не б’е трывогу аб такім стане рэчаў і нікога не просіць аб дапамозе ў набыцці сродкаў індывідуальнай абароны? Чаму бешанковіцкія медыкі мусяць штодзень рызыкаваць сваімі жыццямі?

**Г.Станкевіч**

*Партал твайго горада: http://beshankovichy.by*

COVID-19

## ВАРЫЯНТЫ БАРАЦЬБЫ ЗЬ ВІРУСАМ У БЕЛАРУСІ

**Шырокі грамадзкі рэзананс у Беларусі атрымаў даклад няўрадавага Цэнтру дасьледаваньняў эўрапейскіх краінаў у пераходны пэрыяд (EAST Center) пра магчымыя варыянты разьвіцьця пандэміі ў Беларусі.**

Свабода папрасіла дырэктара па дасьледаваньнях цэнтру, палітоляга Андрэя Елісеева, больш падрабязна распавесьці пра гэтыя прагнозы.

Гэта не дакладны прагноз, а імавернасныя разьлікі міжнароднай групы навукоўцаў, якія з цягам часу і са зьяўленьнем большага масіву статыстычных дадзеных будуць зьмяняцца

Адносна Беларусі яны прыйшлі да высновы, што пры ўжываньні мяккіх захадаў процідзеяньня эпідэміі колькасьць сьмяротных сыходаў можа скласьці 15-30 тысячаў чалавек. Калі беларускія ўлады ў момант, калі колькасьць сьмерцяў складзе 18 на тыдзень, ужывуць стратэгію з даволі жорсткімі захадамі, колькасьць сьмяротных выпадкаў прагназуецца каля 1900 чалавек. А ў выпадку, калі наагул ніякіх мераў ня будзе прымацца, колькасьць сьмерцяў ад каранавірусу ў Беларусі можа скласьці 68 тысячаў чалавек.

Улічвалася некалькі парамэтраў, сярод якіх, у прыватнасьці, колькасьць насельніцтва, яго ўзроставая структура, сярэдні памер хатніх гаспадарак, паказьнік шчыльнасьці сацыяльных кантактаў, колькасьць ложкаў у шпіталях і асобна колькасьць ложкаў у аддзяленьнях інтэнсіўнай тэрапіі. І гэтыя дадзеныя бяруцца з базаў дадзеных па кожнай краіне Сусьветнай арганізацыі здароўя і іншых міжнародных арганізацыяў. Так што гэта ня проста мадэль, распрацаваная для Брытаніі, экстрапалюецца на іншыя краіны.

Паводле шэрагу навуковых дасьледаваньняў Беларусь уваходзіць у пандэмію са спазьненьнем. Як сказаў на мінулым тыдні кіраўнік офісу Ўсясьветнага банку ў Беларусі, Беларусь у хадзе эпідэміі адстае ад той жа Вялікабрытаніі на некалькі тыдняў, яна проста знаходзіцца на пачатковым этапе. І тэрмінова неабходныя пэўныя крокі — скарачэньне сацыяльных кантактаў, павялічэньне сацыяльнай дыстанцыі, забарона на масавыя мерапрыемствы. Гэта дазволіла б спыніць тэмп разьвіцьця пандэміі. І лічбы, якія мы маем на сёньня, не павінныя ўводзіць у зман. Важнай пераменнай зьяўляецца рэальная колькасьць захварэлых.

Рэтраспэктыўнае дасьледаваньне кітайскіх навукоўцаў паказвае, што ў Кітаі афіцыйныя лічбы захварэлых былі ў 6 разоў меншыя, чым сапраўдная колькасьць тых, хто захварэў на каранавірус. І гэтае заніжэньне — яно ў разы па кожнай краіне, у тым ліку і па Беларусі.

— Яно ў разы менш можа і не таму, што лічбу хаваюць, а таму што ня ўсіх ахопліваюць тэстамі. У Беларусі апошняя афіцыйная лічба 32 тысячы тэстаў.

— Афіцыйныя беларускія прадстаўнікі заяўлялі, што Беларусь — на 9-м месцы ў сьвеце па колькасьці тэстаў адносна насельніцтва. Але дадзеныя САЗ гэта абвяргаюць. Паводле іх Беларусь недзе на 40-м месцы паводле гэтага паказьніку.

— Ці ёсьць нейкія разьлікі эканамічнай цаны жорсткай стратэгіі (suppression strategy)? Колькі якой краіне гэта будзе каштаваць? У першым дакладзе гэтага Імпэрскага каледжу Лёндану, які тычыўся толькі Вялікабрытаніі, кіраўнік праекту Ніл Фэргюсан падкрэсьліваў, што мадэль прагназуе толькі мэдычныя наступствы той ці іншай палітыкі. А можа нехта гэтыя разьлікі ўсё ж рабіў?

— І ў дасьледаваньні па 200 краінах і тэрыторыях каманда навукоўцаў таксама пацьвярджае, што яны не ацэньваюць сацыяльна-эканамічныя наступствы той ці іншай палітыкі. Вынік дасьледаваньня палягае ў тым, што нават адносна мяккія меры, якія нанясуць эканоміцы адносна невялікую шкоду, дазволяць захаваць сотні, калі ня тысячы жыцьцяў у краіне памерам Беларусі. Яны не заклікаюць да абавязковага маштабнага карантыну.

— Мадэль той жа групы навукоўцаў, зробленая для Брытаніі, абнародаваная раней, не выключала паўторных хваляў захворваньня, вяртаньня вірусу, неабходнасьці пульсуючай жорсткай стратэгіі — увялі карантын, патрымалі месяц, распаўсюд эпідэміі запаволіўся, аслабілі карантын на месяц, тэмп распаўсюду ізноў павялічыўся, потым ізноў увялі карантын на месяц. Тая мадэль, пра якую мы гаворым, прадугледжвае гэтыя паўторныя хвалі? Каб сьмерцяў у Беларусі было каля 2 тысячаў, а не 68 тысячаў — як доўга павінная праводзіцца жорсткая стратэгія?

— У апошнім дасьледаваньні сапраўды гаворыцца, што можа зьявіцца неабходнасьць хваляў мераў супраць эпідэміі. І гэта тычыцца ўсіх краінаў, ня толькі Брытаніі, ЗША ці Беларусі. Я хачу падкрэсьліць, што дасьледаваньне, на якое я спасылаюся, — не дакладны прагноз, а імавернасныя разьлікі міжнароднай групы навукоўцаў, якія з цягам часу і са зьяўленьнем большага масіву статыстычных дадзеных будуць зьмяняцца, і якія ня ўлічваюць магчымасьць зьяўленьня эфэктыўнай вакцыны ў бліжэйшым часе. Тым ня менш, яны даюць разуменьне рызыкаў, якія можа стварыць некантраляваны распаўсюд эпідэміі.

*(скарочана)*

**Радыё Свабода**

## ****

*Калі зоры над сьцішаным гаем*
*дыханьне затояць,*
*калі ў неба ўплятуцца ад комінаў*
*ніткі дымоў,*
*я іду сваёй вёскай дзяцінства*
*шчасьлівай хадою,*
*я аднекуль кіруюся*
*ў родную хату,*
*дамоў.*

*Млечны Шлях свае споднікі*
*проста над вёскаю сушыць,*
*час ад часу з кішэняў яго*
*зьнічкі коцяцца ўніз.*
*Адвячорак марозны*
*гарэзліва шчыпле за вушы.*
*Пасылае ў Сусьвет мая вёска*
*скупыя агні.*

*Сьнег рыпіць пад нагой,*
*і пад музыку, мілую сэрцу,*
*таньчыць неба і зоры,*
*а клён каля хаты стары*
*грэе рукі над комінам,*
*ды ўсё ня можа сагрэць іх,*
*а ў яго на плячы*
*зьнічка золатам ціхім гарыць.*

***Г.Станкевіч***

## У ЗМАГАННІ ЗА ЖЫЦЦЁ

**Амаль катастафічная сітуацыя з колькасцю хворых, якія паступаюць за першую дэкаду красавіка ў бешанковіцкую раённую бальніцу, патрабуе самаахвярнай працы ўсяго медычнага персаналу. Сітуацыю можна параўнаць з чэрвенем 1941 года, калі савецкія войскі змагаліся з ворагам у поўным акружэнні. А вінтоўка часта была адна на дваіх.**

Усе жыхары Бешанковіцкага раёна бясконца ўдзячныя бешанковіцкім медыкам, якія рызыкуючы ўласнымі жыццямі, робіць амаль немагчымае ў супрацьстаянні з нябачным ворагам. Бо кожны хворы, які паступае ў бальніцу, можа быць патэнцыяльным носьбітам каранавірусу, ад якога трэба абараняцца.

Сітуацыя крайне ўскладняецца тым, што сродкаў індывідуальнай абароны маецца мінімум ад неабходнага і, мусіць, яны недасканалыя. Невыпадкова работнікі бешанковіцкай санэпідэмстанцыі з’явіліся першымі пацыентамі ў гэтым змаганні. Заразяны знаходзяцца асобна ў былым дзіцячым аддзяленні на каранціне. Іх даглядае медперсанал гэтага аддзялення, якому таксама патарбуюцца сродкі індывідуальнай абароны.

Многія медработнікі бешанковіцкай раённай бальніцы, каб не падвяргаць небяспецы сваіх родных і блізкіх, пасля працы жывуць асобна ад сем’яў — на дачах, вольных кватэрах і г.д. Мая знаёмая распавядала, што пасля прыходу з працы яна апрацоўвае

***(працяг на стар. 2)***

COVID-19

(пачатак на стар. №1)
ўсю сябе з ног да галавы спіртам, апрацоўвае дзвярныя ручкі, а потым запіраецца ў асобным пакоі кватэры, каб не мець кантактаў з роднымі. Абсалютная бальшыня медыцынскіх работнікаў сама апрацоўвае сваё спецадзенне, каб мець магчымасць на наступны дзень хоць чымсці абараніцца.

Медыкам рэанімацыйнага аддзялення, каб зменшыць небяспеку заражэння блізкіх, прапанавана жыць у будынку былой бешанковіцкай гімназіі-інтэрната.

За апошнія два дні сітуацыя крыху змянілася. У бальніцы з'явіліся аднаразовыя ахоўныя касцюмы. Але іх не хапае на ўсіх, а таму некаторыя медыкі думаюць, як бы іх дэзінфікаваць, каб выкарыстаць шмат разоў. Але замочваць іх нельга, бо яны разлазяцца.

А паралель з 1941-м невыпадковая. І тады і цяпер у краіне быў адзін правадыр, які, нібыта, ведаў, што рабіць. Памятаеце: «Чужой земли мы не хотим ни пяди, но и своей вершка не отдадим...» У выніку пасля першага месяца вайны немцы былі пад Масквой і Ленінградам. А правадыр ужо ў ліпені 1941 года за дапушчаныя пралікі расстраляў генерала Паўлава, які быў на перадавой. Ён камандаваў Заходнім фронтам.

У нас таксама не абышлося без «расстрэлу». У адстаўку пайшоў начальнік упраўлення аховы здароўя Віцебскага аблвыканкаму Юры Дзяркач. Відаць, гэта ён вінаваты ў тым, што ў нас не хапае ахоўных касцюмаў і іншых сродкаў індывідуальнай абароны медыкаў. Відаць, гэта ён цэлы месяц замест таго, каб шыць ахоўныя касцюмы, расказваў па тэлевізары анекдоты, як трэба бараніцца ад каранавірусу.

А сродкі, якіх зараз у краіне не густа, відаць, эканомяцца для шыкоўнага параду да Дня Перамогі і для чарговага Славянскага базару.

Медыкі, нізкі Вам паклон!

Пра тое, што сітуацыя з сродкамі абароны медыкаў аналагічная па ўсёй Віцебскай вобласці, размова ішла 7-га красавіка на паседжанні аблвыканкама.

**Г.Станкевіч**

# БЕРАЖЫЦЕ СЯБЕ!

**Якія хранічныя хваробы асабліва небяспечныя ў часы каранавіруса.**

Каранавірус асабліва небясьпечны пажылым людзям, таму што яны маюць, як правіла, розныя хранічныя захворваньні.

**Астма і хранічныя захворванні лёгкіх**

Падчас прыступу астмы набракае слізістая абалонка бронхаў, дыхальныя шляхі спазмуюцца і звужаюцца, з-за чаго ў лёгкія паступае менш паветра. Астматыкам становіцца цяжка зрабіць удых і асабліва выдых. Прыступы суправаджаюцца кашлем, хрыпамі, узмацненнем дыхавіцы. Арганізм з усіх сіл спрабуе супрацьдзейнічаць ім, і гэтая барацьба істотна аслабляе яго.

Паводле ацэнак СААЗ, ад астмы пакутуюць 235 млн чалавек.

Прыступы астмы могуць справакаваць алергены і інфекцыі дыхальных шляхоў. У гэтым выпадку імунная сістэме даводзіцца змагацца не толькі з астмай, але і з іншымі захворваннямі. Часам яна не ў сілах справіцца са сваёй задачай, і ў самых неспрыяльных выпадках гэта можа прывесці да незваротных наступстваў.

Яшчэ адно захворванне дыхальнай сістэмы — гэта хранічная абструктыўная хвароба лёгкіх (ХАХЛ). Лічыцца, што адной з асноўных прычын развіцця ХАХЛ з'яўляецца тытунёвы дым, пры гэтым у групу рызыкі ўваходзяць як актыўныя, так і пасіўныя курцы. Імунная сістэма людзей з ХАХЛ, якой даводзіцца змагацца яшчэ і з іншымі захворваннямі, адчувае падвойную нагрузку. Лёгкія пацыентаў з ХАХЛ сур'ёзна пашкоджаныя, і ў вірусаў значна менш перашкод для пранікнення.

**Цукровы дыябет**

Дыябет узнікае, калі падстраўнікавая залоза не выпрацоўвае дастаткова інсуліну або калі арганізм не можа эфектыўна выкарыстоўваць выпрацаваны інсулін. Гэта прыводзіць да хранічнага падвышанага ўтрымання цукру ў крыві — гіперглікеміі.

Павышаны ўзровень цукру ў крыві аслабляе супраціўляльнасць арганізма. Інфекцыйныя захворванні, асабліва тыя, якія суправаджаюцца павышэннем тэмпературы, могуць рэзка пагоршыць стан дыябетыкаў — нават тых, чыя хвароба добра кантралюецца з дапамогай лекаў.

Хвароба можа ўразіць сасуды і адбівацца на стане ўнутраных органаў, ствараючы дадатковыя нагрузкі на іх. І тады імунная сістэме становіцца значна цяжэй абараняць арганізм ад чужароднага і шкоднага ўмяшання.

**Сардэчна-сасудзістыя захворванні**

Ад сардэчна-сасудзістых захворванняў (ССЗ) штогод памірае больш людзей, чым ад якой-небудзь іншай хваробы. Паводле СААЗ, у 2016 годзе яны сталі прычынай смерці амаль 18 млн чалавек, гэта трацiна ўсіх смерцяў у свеце. У 85 працэнтах смерць наступіла ад сардэчнага прыступу (інфаркту) або інсульту. Да ССЗ адносяцца ішэмічная хвароба сэрца, пры якой крывяносныя сасуды не ў стане забяспечваць крывёй сардэчную цяглiцу, і хвароба сасудаў, якія забяспечваюць крывёю галаўны мозг.

Любое інфекцыйнае захворванне для людзей з падобнымі праблемамі можа скончыцца смяротным зыходам. Гэта ж адносіцца да тых, хто пакутуе ад парушэння працы сардэчных клапанаў: вірусныя інфекцыі могуць дэстабілізаваць працу ўсяго арганізма.

**Гіпертанічная хвароба**

Гіпертанія лічыцца адной з асноўных прычын смяротнасці на планеце. Яна таксама павышае рызыку развіцця захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы, галаўнога мозгу і іншых хвароб.

Высокі артэрыяльны ціск вядзе да пашкоджанняў артэрыяльных сасудаў і ўплывае на працу сэрца, якое вымушана знаходзіцца ў стане перагрузкі. Гэта можа выклікаць развіццё цяжкіх сардэчна-сасудзістых захворванняў і, як вынік, аслабіць супраціўляльнасць арганізма вірусам і іншым інфекцыям.

**Анкалагічныя захворванні**

Адным з найбольш пашыраных метадаў лячэння анкалогіі з'яўляецца хіміятэрапія. Пры гэтым выкарыстоўваюцца цытастатыкі — супрацьпухлінныя прэпараты, якія парушаюць працэсы росту, развіцця і дзялення злаякасных клетак. Але цытастатыкі атакуюць не толькі ракавыя клеткі — ад іх пакутуюць і здаровыя тканкі, гэта наносіць страты імуннай сістэме, і арганізм становіцца больш успрымальным да патагенных мікраарганізмаў.

Людзі, якія праходзяць сеансы хіміятэрапіі або апраменьвання, павінны быць надзвычай асцярожныя. Нават адносна бяскрыўдная прастуда можа стаць для іх вельмі небяспечнай.

**Аўтаімунныя захворванні**

Аўтаімунных захворванняў мноства: сярод іх ёсць рэдкія і больш пашыраныя, такія як рэўматоідны артрыт, псарыяз, рассеяны склероз ці хвароба Крона (хранічнае запаленне кішэчніка).

Пацыентам, якія пакутуюць ад аўтаімунных захворванняў, лекары прапісваюць імунадэпрэсанты, якія аслабляюць дзейнасць імуннай сістэмы. Прымаюць іх і людзі з ВІЧ. Ахоўныя механізмы саслабленай імуннай сістэмы даюць збой, і арганізм становіцца лёгкай ахвярай інфекцый. Таму тым, хто вымушаны прымаць імунасупрэсіўныя прэпаратаў, трэба быць надзвычай асцярожнымі.

Ну і, нарэшце, не варта забываць пра тое, што некаторыя ўзбуджальнікі інфекцыйных захворванняў небяспечныя і для людзей без якіх-небудзь хранічных захворванняў. Таму ўсім без выключэння варта праяўляць асцярожнасць і не грэбаваць правіламі гігіены.

**"Наша Ніва"**

ЗДАРЭННІ

# ДЗВЕ СМЕРЦІ Ў АГНІ

31-га сакавіка ў 10 гадзін 37 хвілін у аддзел па надзвычайных сітуацыях Бешанковіцкага раёна паступіла паведамленне аб пажары жылога дома па вуліцы Малінавай. Па прыбыцці на месца выкліку назіралася адкрытае гарэнне жылога дома. Падчас тушэння пажару работнікамі МНС у пакоі, на падлозе пад пластом канструкцый, якія абваліліся, знойдзены труп жанчыны 1965 году нараджэньня. Агнём у доме знішчаны дах, пашкоджана перакрыцце столі, сцены і маёмасць. Па гэтым факце праводзіцца праверка, прычына пажару высвятляецца.

6-га красавіка ў 12-50 ў цэнтр аператыўнага кіравання Бешанковіцкага раённага аддзела па НС паступіла паведамленне аб загаранні сухой раслiннасці ў вёсцы Руслікі Бешанковіцкага раёна.

Калі падраздзяленні МНС прыбылі да месца выкліку, яны назіралі гарэнне сухой расліннасці на тэрыторыі прыватнага домаўладання, існавала пагроза распаўсюджвання агню на гаспадарчыя пабудовы.

Прыватны падворак належыў мужчыне-пенсіянеру 1930 года нараджэння.

Падчас тушэння ўзгарання работнікамі МНС на зямлі, на адлегласці 45 метраў ад пабудоў, знойдзены труп гаспадара падворка.

**М.Васільеў**
**паводле сайта МНС**

ГІСТОРЫЯ

# 4-ГА КРАСАВІКА 1557 ГОДА НАРАДЗІЎСЯ ЛЕЎ САПЕГА

**Леў Сапега — наш зямляк. Ён нарадзіўся ў вёсцы Астроўна Бешанковіцкага раёна. Прапануем вам кароткі матэрыял пра ягонае жыццё і дзейнасць.**

Сын Івана Сапегі, старосты Драгічынскага, падстаросты Аршанскага, і Багданы, княжны Друцкай-Сакалінскай, ён атрымаў добрую адукацыю: вучыўся ў кальвінскай школе ў Нясвіжы, потым 3 гады (1570–1573, у 13–16 гадоў) у Лейпцыгскім універсітэце. Добра ведаў польскую, нямецкую і лацінскую мовы.

У 1581–1585 гадах быў вялікім пісарам земскім, у 1585–1589 гадах падканцлерам, з 1589 да 1623 года (34 гады запар!) канцлерам, з 1623-га ваяводам віленскім, з 1625-га — вялікім гетманам. Спачатку ён вызнаваў праваслаўе, потым кальвінізм (з 14 гадоў), а ў 29 гадоў перайшоў у каталіцызм. Такі досвед абумовіў верацерпнасць Льва Сапегі.

Найважнейшыя яго дасягненні наступныя:

1. Разам з канцлерам А. Валовічам і падканцлерам К. Радзівілам ён у 1581–1582 гадах стварыў Трыбунал ВКЛ. Такім чынам у ВКЛ былі падзелены тры галіны ўлады — заканадаўчая (Паны-Рада, Вальны сойм), выканаўчая (Канцылярыя вялікага князя, ваяводы і старасты), судовая (Трыбунал).

2. Заняўшы пост старшыні камісіі Сойма ВКЛ, падрыхтаваў, адрэдагаваў тэкст і выдаў Статут ВКЛ 1588 года. Нагадаю, што па гэтым Статуце нашы продкі жылі 254 гады!

3. Як камісар караля рашуча падтрымаў у Брэсце ў 1596 годзе царкоўную унію, праз якую ў дзяржаве ўдалося спыніць звады на рэлігійнай глебе.

4. Склаў у 1618 годзе Дэулінскае перамір'е з Масквой, вельмі выгаднае для ВКЛ.

У Статуце 1588 года Сапега не пагадзіўся з пастановамі Люблінскага сойма фармальна і фактычна.

Фармальна. Статут атры-маў сілу закона не праз пастанову «сумеснага» сойма польскай і літоўскай шляхты, а ў выніку зацвярджэння яго каралём Жыгімонтам ІІІ, як заўсёды было ў ВКЛ да Люблінскай уніі. Акрамя таго, прывілей, якім кароль зацвердзіў Статут, меў дзяржаўную пячатку толькі ВКЛ, подпісы караля, канцлера Сапегі і вялікага пісара Гаўрылы Войны. Тым самым Сапега выключыў магчымасць юрыдычных прэтэнзій да Статута.

Фактычна. Пры выданні Статута трэба было змясціць у ім тэкст Люблінскай уніі ды іншыя пастановы сойма 1569 года. Але яны абмяжоўвалі правы ВКЛ як самастойнай дзяржавы, і Сапега іх не надрукаваў. Проста, але вельмі шыкоўна!

Акамя таго, Статут захаваў тры артыкулы, якія выклікалі абурэнне польскай шляхты:

— артыкул 4 (у частцы 3), які абавязваў вялікага князя захоўваць у нязменным выглядзе мяжы ВКЛ;

— артыкул 12 (у частцы 3) пра парадак раздачы пасад, маёнткаў і староставў у Вялікага Княстве; усё гэта можна было даваць «толькі Літве, Русі, Жмудзі, родзічам старажытным і ўраджэнцам Вялікага Княства Літоўскага». Калі б нейкі замежнік атрымаў зямлю праз дарэнне, ён мог карыстацца ёю толькі пасля клятвы на вернасць Вялікаму Княству, але ні на якія пасады «прыпушчаны, ані ад гаспадара ўстаноўлены» быць не мог;

— артыкул 1 (у частцы 4) пра карыстанне беларускай мовай ва ўсіх земскіх установах Вялікага Княства («А писаръ земъскъй маеть поруску литерами и словы рускими вси листы выписы и позвы писати а не иншимъ езыкомъ и словы»).

Пасля таго як кароль Жыгімонт ІІІ Ваза зацвердзіў Статут 28 студзеня 1588 года, Сапега за свой кошт надрукаваў Статут і разаслаў ва ўсе гарады і мястэчкі, якія былі цэнтрамі 8 ваяводстваў і 19 паветаў ВКЛ.

*(скарочана)*

**Радыё FM**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# АДКРЫЦЦЁ ВЫДАТНАГА ЭКАНАМІСТА

**Прапаганда — гэта як язда на ровары. Варта толькі перастаць круціць колы — і страта раўнавагі (стабільнасці) становіцца фактам, дадзеным веласіпедысту ў вельмі балючых адчуваннях.**




У беларускім грамадстве існуе кансэнсус, што 2×2=4. Прынамсі, я быў у гэтым упэўнены да таго часу, пакуль на прасторах інтэрнэта выпадкова не наткнуўся на сайт тэлеканала «Беларусь 1».

Тэлевізар я не ўключаю ўжо шмат гадоў, а тут не ўтрымаўся. Выбарачна паспрабаваў паглядзець перадачы, якія прэтэндуюць называцца аналітычнымі. Не пашкадаваў.

Пачну з рэкламнага слогана, размешчанага на галоўнай старонцы сайта тэлеканала, *«які мае найбагацейшыя традыцыі і валодае самымі сучаснымі тэхналогіямі тэлевытворчасці»: «Галоўны тэлеканал краіны "Беларусь 1" — гэта: самая дакладная і аператыўная інфармацыя пра жыццё краіны, далёкае і блізкае замежжа».*

Ну як тут было ўтрымацца! Дакладная і аператыўная інфармацыя заўсёды карысталася павышаным попытам у дзяржаве для народа. Ва ўмовах жа пандэміі, якая ахапіла ўвесь свет, каштоўнасць інфармацыі з такімі характарыстыкамі шматкроць павысілася.

Выпадкова абраў перадачу **«Клуб рэдактараў»** ад 13 сакавіка. Кампанія, якая брала ў ёй удзел, была не вялікая, але бардзо пажондна — пан вядучы, два паны галоўныя рэдактары дзяржаўных СМІ і ў якасці спецыяльнага госця — *«выдатны эканаміст»* (характарыстыка ад пана вядучага), доктар навук, загадчык кафедры адной з беларускіх ВНУ.

Абмяркоўваліся чатыры тэмы: каранавірус (як жа сёння без яго), нафта, долар і чорны піяр. Натуральна, не абышлося без рашучай водпаведзі расійскай прэсе, якая рэгулярна гоніць хвалю наконт нахлебніцтва Беларусі. Далей дазволю сабе працытаваць невялікі фрагмент дыскусіі.

Пытанне выдатнаму эканамісту ад пана вядучага: *«Дык корміць нас Расія, утрымлівае ці не ўтрымлівае?»*

Выдатны эканаміст: *«Дапусцім, Беларусь раптам узяла (такога не будзе) і сышла ў NATO, і Расіі давядзецца ствараць групоўку, каб процідзейнічаць NATO ў 400–500 тысяч салдат. Дзе яны набяруць столькі людзей, дзе тэхнікі, і ў колькі гэта стане? Я думаю, па цане гэта абыдзецца ў гадавы ВУП Беларусі, не менш».*

Сур'ёзныя пытанні, пагадзіцеся. Аднак перш, чым паспрабаваць знайсці на іх адказы, я вырашыў атрымаць даведку — і патэлефанаваў сябру, спецыялісту па праблемах бяспекі, кіраўніку аналітычнага цэнтра Belarus Security Blog **Андрэю Паротнікаву**.

На думку эксперта, верхняя мяжа колькасці вайскоўцаў у Беларусі не перавышае 55 тысяч чалавек. Атрымліваецца, што эфектыўнасць аднаго беларускага абаронцы Радзімы амаль на парадак пераўзыходзіць эфектыўнасць расійскага…

Чым абумоўленая такая дыспрапорцыя ў ратным ККД? На ўзроўні фармальнай логікі тут магчымыя два варыянты адказу: або гэта выклікана фантастычным прагрэсам беларускай арміі за апошнія гады, або поўнай дэградацыяй арміі расійскай.

Але нешта мне падказвае, што параўноўваць крутасць дзвюх армій Саюзнай дзяржавы — справа няўдзячная. Прычыну дыспрапорцыі варта шукаць у «выдатным эканамісце», абцяжараным пачуццём адказнасці перад ідэалагічнай і іншымі вертыкалямі.

**Пра ролю культурнага героя**

*«Веды, якія не змяняюць паводзінаў, бескарысныя»*, — сцвярджае ізраільскі гісторык **Юваль Харары**, кнігі якога разыходзяцца шматмільённымі накладамі. Канчатковая мэта прапаганды якраз — змяненне паводзінаў. Пры гэтым зусім не абавязкова пад паводзінамі разумець набор пэўных учынкаў. Хутчэй наадварот: у нашы дні правільныя паводзіны азначаюць поўную адмову ад якой-небудзь самастойнай актыўнасці.

Гэта на досвітку савецкай улады Ленін разважаў пра «жывую творчасць масаў». Правадыр сусветнага пралетарыяту быў схільны падзяляць «асноўную памылку інтэлігенцыі», г. зн. веру ў здольнасць народа, калі яго вызваліць ад прыгнёту начальства і эксплуататараў, самастойна наладзіць сваё жыццё. Канкрэтнае ўвасабленне гэтай ідэі палягала ў ідэалізацыі Саветаў.

Аднак правадыр, калі сутыкнуўся з хаосам, спароджаным «трыумфальным шэсцем савецкай улады», быў вымушаны павярнуцца на 180 градусаў і заявіць, што «Саветы і дыктатура сумяшчальныя». Вынікам развароту і стала палітыка ваеннага камунізму.

Сталінская індустрыялізацыя запатрабавала максімальнай мабілізацыі энергіі масаў, але пад жорсткім кантролем «Ордэна мечаносцаў». Не выпадкова ў сацыялогіі савецкае грамадства прынята называць «грамадствам мабілізацыйнага тыпу». Перабудова падвяла рысу пад такім грамадствам. Таму не толькі беларускі, але практычна ўсе постсавецкія рэжымы (краіны Балтыі, зразумела, мы не лічым) спрабуюць сёння падтрымліваць стабільнасць не за кошт энергіі насельніцтва, а за кошт яго пасіўнасці.

Галоўная задача прапаганды пры гэтым зводзіцца да доказу адсутнасці адказу на пытанне: «Калі не ён, то хто?» Зразумела, што ў кожнай постсавецкай рэспубліцы знайшоўся свой «ён». У поўнай адпаведнасці з роляй культурнага героя ў міфалогіі, «ён» творча пераўтварае свет, лепіць яго з першабытнага (г.зн. постперабудовачнага) хаосу. Натуральна, з улікам нацыянальных асаблівасцяў канкрэтных рэспублік.

*«Міф,* — сцвярджае расійскі гісторык Уладзімір Булдакоў, — *вырастае на глебе агульнага страху перад варожым асяроддзем».* Не ўпэўнены, што «выдатны эканаміст» знаёмы з гэтым выказваннем, але тое і не трэба. Яго 400–500 тысяч расійскіх вайскоўцаў, неабходных для замены 55 тысяч беларускіх вайскоўцаў — тыповы прыклад канструявання варожага акружэння. На фоне такой арыфметыкі любыя размовы пра нахлебніцтва выглядаюць недарэчнымі.

**Ад атамнага стагоддзя да інфармацыйнага**

Аднак працягну цытаваць Харары: *«Веды, якія змяняюць паводзіны, хутка губляюць актуальнасць».* Гэтая азбучная ісціна знаёмая кожнаму прапагандысту нават і без падказкі ізраільскага гісторыка. Прапаганда — гэта як язда на ровары. Варта толькі перастаць круціць колы — і страта раўнавагі (стабільнасці) становіцца фактам, дадзеным веласіпедысту ў вельмі балючых адчуваннях.

Паўзы прапагандзе супрацьпаказаныя не толькі таму, што, парушаючы законы прыроды, яе колы здольныя круціцца паводле прынцыпу Perpetuum Mobile. Не, з законамі прыроды ўсё ў парадку. Бесперапыннасць жа руху забяспечваецца за кошт бюджэтных сродкаў, г. зн. сродкаў, якія канфіскуюцца «дзяржавай для народа» з кішэняў гэтага самага народа. А займацца гэтым не стамляецца кожная дзяржава.

Дваццатае стагоддзе было прынята называць «атамным», дваццаць першае — інфармацыйным. Адпаведна, і перамога ў супрацьстаянні паміж фізікамі і лірыкамі пачала схіляцца на карысць лірыкаў. *«Аналагічна капіталізму і камунізму, — тлумачыць Харары, — дэмакраты і дыктатуры з'яўляюцца па сутнасці канкуруючымі механізмамі збору і аналізу інфармацыі. Дыктатарскія рэжымы выкарыстоўваюць цэнтралізаваныя метады, а дэмакраты аддаюць перавагу размеркавальным. У апошнія дзесяцігоддзі дэмакраты выраваліся наперад, таму што ва ўнікальных умовах канца XX стагоддзя размеркавальная апрацоўка даных аказалася эфектыўнейшай».*

У мінулым, аднак, больш дзейснай была цэнтралізаваная. Прыкладаў гэтаму ў гісторыі мноства. У прыватнасці, таму была зруйнаваная Рымская Рэспубліка і ўлада перайшла ад сената ў рукі імператара-аўтакрата. Аналагічны пераход мы мелі магчымасць назіраць у Беларусі ў 1994 годзе…

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

COVID-19

# «ИСХОДИТЕ ИЗ ТОГО, ЧТО ЛЮБАЯ ПРОСТУДА… — КОРОНАВИРУС»

**Павел Васюкевич, который сегодня работает в Германии анестезиологом-реаниматологом, объяснил, что не так с белорусской статистикой, из-за чего сейчас так важен карантин и почему не поможет закупка даже большого количества аппаратов ИВЛ.**

Уроженец Минска Павел Васюкевич записал видеообращение к белорусам, потому что, по его словам, не может спокойно смотреть на то, что сейчас происходит на родине.

— Считаю, что та ситуация, которая сложилась в Беларуси в противопоставление всему остальному миру, не совсем в порядке, — отмечает врач в беседе с журналистами «Салідарнасці»…

**«Почему в Беларуси не вводятся карантинные меры? По незнанию или по злому умыслу?»**

Врач возмущен тем, что в Беларуси по примеру других стран не вводят карантин. И объясняет, почему это нужно.

— В чем проблема этой инфекции? Все мы болели гриппом, любой другой простудой и все было окей. Но против всех простуд, которые циркулируют регулярно, у нас есть групповой иммунитет. Вы переболели одним штаммом гриппа — у вас выработался пожизненный иммунитет. Переболели другим — уже два. Та же беда и с коронавирусом, что, переболев им, приобретается иммунитет — пожизненный или нет — вопрос еще открыт.

Сегодня коронавирус — это та инфекция, против которой нет группового иммунитета.

— Это значит, что любой заразившийся более — неважно, легко, без осложнений, или нет. Но если человек, который является уже носителем вируса идет дальше, посещает кафе, футбольные матчи, которые идут только в Беларуси, идет кататься на лед, играть в хоккей, он разносит эту заразу, — поясняет Павел Васюкевич. — Этот вирус способен заразить любого, кто им еще не переболел. А так как на сегодня на земном шаре вирусом заразились лишь 700 тысяч из 7 миллиардов, значит, заразиться может еще очень много людей. Нет тупика, нет человека, на котором эта цепь прервется.

Врач объясняет, что карантинные меры нужны именно для того, чтобы не заболеть всем сразу одновременно.

— Система здравоохранения не резиновая. Она не способна переварить большое количество заболевших одномоментно, — поясняет врач. — Речь идет даже не о тысячах. Сто тяжелых больных — это достаточно внушительная цифра. В этом и есть смысл — уменьшить количество больных на конкретный момент времени, растянуть эту эпидемию на дольше, чтобы система

***(працяг на стар. 4)***

COVID-19

*(пачатак на стар. №3)*
здравоохранения могла переварить то количество больных, которое поступает — с чем сейчас не справляется Италия и Испания.

Поэтому страны и вводят карантинные меры. Где-то менее жесткие, ограничившись лишь закрытием общественных мест, где-то более жесткие, когда запрещено передвигаться по городу.

— Беларусь является грустным исключением, кто не ввел практически никаких ограничительных мер. По какой причине? По незнанию или по злому умыслу, не знаю. Но я вас прошу проявить сознательность, — призывает врач…

**«Это не значит, что надо нажраться, выпить 100 грамм, пойти в сауну и сесть на трактор»**

Павел Васюкевич предлагает исходить из того, что любая простуда должна быть сейчас расценена как коронавирус. Не потому, что это обязательно COVID-19, а для противоэпидмероприятий.

Врач дал советы, что каждый может сделать для себя, если у него появились симптомы простуды.

— Я предлагаю исходить из того, что любая простуда, которая у вас сейчас появилась — это коронавирус, — поясняет он. — Да и коронавирус — это заболевание в большинстве своем не смертельное, излечимое, и многие не заметят, что им переболели. Если у вас появились какие-либо симптомы простуды, температура 37, першит в горле, насморк — оставайтесь дома. Организм здорового человека, если ему создать минимально оптимальные условия, справится сам.

Однако врач в беседе с журналистами «Салідарнасці» подчеркивает, что речь именно о легком течении болезни у здоровых людей и людей с хорошо контролируемыми медикаментозно хроническими заболеваниями в стадии ремиссии.

При этом отмечает: не все правильно понимают, что значит создать оптимальные условия для выздоровления.

— Это не значит, что надо нажраться, выпить 100 грамм, пойти в сауну и сесть на трактор. Это все прекрасно, когда вы здоровы. Когда ваш организм болеет — это только навредит. Баней вы обезвоживаете организм, сбиваете терморегуляцию, то же самое с обтиранием, с контрастным душем — это не работает. Во время заболевания забудьте о мерах закаливания — это поздно.

Первое и главное, что надо сделать, в этом случае — это оставаться дома. "Если вы выйдете из дома, то вы заразите следующего человека, — отмечает врач."

**«Идти в больницу с температурой 37 — это преступление»**

Доктор также не советует идти в поликлинику, если симптомы болезни легкие. При этом он призывает остаться дома, при необходимости попытаться получить больничный по телефону, а работодателям позволить человеку не приходить с температурой 37, не требовать лишних документов.

— Не нагружайте поликлинику. Потраченное на вас время врачи могли бы потратить на человека, который задыхается, которому нужно действительно экстренно оказать медицинскую помощь. Вы сами себе можете помочь больше, чем система здравоохранения, которая может начать захлебываться от больных.

При легком течении болезни врач советует сначала попытаться справиться с ситуацией самостоятельно. И если не получится, тогда обращаться к медикам…

**Что делать, если вы заболели и остаетесь дома. Советы врача**

Проветривайте и увлажняйте воздух. Температура должна быть приближена к 20 градусам.

Максимально ограничьте контакт с домашними. Если вы заболели, именно вы должны носить маску.

Много пейте (этот пункт не касается людей с почечной и сердечной недостаточностью и хроническими заболеваниями). Сухой язык, сухие покровы кожи свидетельствуют, что у вас нарушен питьевой режим.

Контролируйте также мочеиспускание. Если моча темного цвета — значит, питьевой режим нарушен и надо больше пить.

Ешьте пищу с легко усваиваемыми углеводами (например, каши). Если нет аппетита, тогда пейте сладкие напитки (морсы, компоты, сладкие чаи) — именно глюкоза является источником энергии. Похудение оставьте на потом.

Не лежите, даже если вам сложно передвигаться. При движении вы стимулируете отхаркивание мокроты и очищаете дыхательные пути от скопившейся там слизи. Это важно, так как грозным осложнением коронавируса является пневмония.

Контролируйте температуру, частоту дыхания, сердечных сокращений, артериальное давление.

Сбивайте температуру жаропонижающими препаратами в стандартной дозировке. Помните, лекарств от коронавируса нет! Если температура не снижается, проконтролируйте свой питьевой режим — в обезвоженном организме препарат не будет работать. Если же с питьевым режимом все хорошо, а температура не снижается — это уже повод обратиться к врачу…

*(скарочана)*

**gazetaby.com**

# КОРОНАВИРУС НАСТУПАЕТ. ЛУКАШЕНКО ЗАПАЗДЫВАЕТ?

**Эксперты: чем раньше предпринять более широкие меры противодействия эпидемии, тем больше жизней белорусов можно сохранить... Уже 13 жертв забрал коронавирус в Беларуси. А общее число инфицированных, по официальным данным на 6 апреля, достигло 700. Белорусскому руководству явно пора менять тон. А главное, по мнению многих (и не только обывателей, но и экспертов) — более решительно действовать.**

«305 человек [зараженных коронавирусом] по всей стране — это мизер!» — заявлял Александр Лукашенко в минувшую пятницу. Он также возмутился, что «шумиху подняли по поводу четверых умерших». Причем официальный лидер в последних выступлениях обрисовывал дело так, будто едва ли не сами умершие виноваты в собственной кончине: кто-то зря ходил по улице, кто-то много весил, да и вообще — возраст, что вы хотите...

Но цифры угрожающе растут, и бросаться словами типа «мизер» главе «государства для народа» чем дальше, тем рискованнее.

**Президент терпит пиаровское поражение**

Сегодня президент не отметился никакими публичными заявлениями на тему вируса. Будет интересно проследить за эволюцией его риторики. Под влиянием медицинской статистики и общественного резонанса наверху, вероятно, идет некий процесс осмысления грозной реальности и возможной плачевной перспективы.

Даже если брать чисто пиаровский аспект, то продолжать бравировать, твердить о мировом психозе и раздавать сомнительные профилактические советы в духе «баня, водка, гармонь и лосось» означает все больше раздражать уже всерьез испугавшееся общество. Причем замечаниями, что у жертв COVID-19 были букет болезней, излишний вес, изрядный возраст, Лукашенко задевает свой ядерный электорат.

При том что режим авторитарный, некая обратная связь все же работает. Наверху наверняка изучают социологические данные, доклады спецслужб о настроениях, в конце концов, мониторят независимые СМИ и соцсети.

Социология — взять свежее исследование SATIO — показывает, что большинство населения выступает за более жесткие меры противодействия вирусу. Родственники умерших от COVID-19, задетые замалчиванием, полуправдой, сами выходят на прессу, афишируют истории жертв пандемии. А по социальным сетям прокатился сатирический флешмоб: белорусы стали писать якобы от имени президента уничижительные некрологи о самих себе. В духе: никчемный человечишка, не так жил, сам виноват, что склеил ласты.

Все это говорит о том, что официальный лидер, избравший задиристо-высокомерную тональность по отношению к пандемии и людям, терпит жестокое пиаровское поражение.

**Аналитик: власти Беларуси рисуют ложную дилемму**

Лукашенко и его подчиненные не скрывают, что, взяв на вооружение в условиях пандемии принцип «торопись медленно», пекутся об интересах производства. Мол, как ты будешь доить коров на удаленке.

Но представление, что у белорусских властей лишь два варианта действий — «либо актуальный набор мер, либо широкий карантин с остановкой всего и вся — это ложная дилемма», заявил в комментарии для Naviny.by директор аналитического центра EAST (Варшава) Андрей Елисеев.

По его словам, есть различные меры, которые наносят минимальный ущерб экономике и при этом позволяют сократить число межчеловеческих контактов и таким образом замедлить распространение эпидемии. «Это просто отказ от массовых мероприятий, своевременное закрытие учебных заведений, дополнительные миры социального дистанцирования людей», — пояснил аналитик.

На днях он опубликовал доклад «Коронавирусная эпидемия: сценарии последствий для Беларуси». В нем отмечается, что в отличие от большинства стран, избравших жесткие меры противодействия пандемии, Сингапур и Южная Корея, как и Беларусь, избрали стратегию быстрой изоляции заболевших, а также отслеживания контактов заболевших и наблюдения за ними.

Но при этом Сингапур и Южная Корея более эффективно диагностируют случаи коронавирусной инфекции и отслеживают контакты заболевших, применяют более эффективную систему изоляции, активно используют новейшие технологии и т.д. Наконец, там намного выше уровень доверия властям, чему способствует хорошее информирование общественности о развитии ситуации с COVID-19.

К слову, уже после выхода доклада Сингапур ужесточил меры борьбы с вирусом…

**COVID-19 может сильно подмочить президентскую репутацию**

С одной стороны, не собрала «пятая колонна» подписи — ну и черт с ней, властям только облегчение. С другой стороны, имитировать выборы в компании с парой откровенно картонных персонажей для Лукашенко как-то совсем уж несолидно.

Главное же — как будет развиваться ситуация с COVID-19. Если по мрачному варианту, то бессменный президент с его подходом в духе «весь мир свихнулся, одни мы умные» рискует сильно упасть в глазах электората. Да, под предлогом пандемии можно развязать руки силовикам, жестче пресекать в зародыше протесты, но это не укрепит авторитет Лукашенко ни в глазах белорусов, ни в глазах Запада. А ведь границы рано или поздно снова откроются и вообще понадобится западная помощь — и в противостоянии с Россией, и в ликвидации последствий кризиса.

А может, станет так худо, что наверху решат вообще перенести кампанию?

«Власти пока не видят оснований для переноса президентских выборов в принципе, потому что хотят решать проблемы по мере их поступления. До сих пор ситуация с эпидемией воспринималась как нечто не очень опасное», — заявил в комментарии для Naviny.by политический обозреватель Павлюк Быковский.

По его словам, сейчас «понимание опасности, скорее всего, появляется». Вместе с тем «если вводить какие-то специальные режимы, карантины, то ущерб, который будет наноситься бизнесу, людям, нужно будет как-то оплачивать», отмечает аналитик.

«Эти обязательства государство брать на себя не спешит. В этой ситуации вопрос с президентскими выборами, скорее всего, будет решаться в самый последний момент. А сейчас, скорее всего, решают, стоит ли проводить парад», — считает Быковский.

Да, вопрос о параде 9 мая сейчас, если хотите, становится для белорусского руководства этаким тестом на политическую адекватность. Пока подготовка к мероприятию, которое может стать колоссальным рассадником заразы, продолжается.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**"БЕЛАПАН"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 16.04.2020 у 17.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.